Жыве Беларусь!



# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№129 (642) 2 ліпеня 1993 г. Пятніца. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 501040 экз. | Кошт у розніцу — 7 руб.

## ФАКС

### Вкратце

**Премьеры России и Беларуси договорились о создании экономического союза между двумя странами, решили вопросы кредитования.**

Подписаны три соглашения — о взаимных обязательствах и требованиях, связанных с использованием рубля — валюты РФ в качестве законного платежного средства на территории Беларуси, о межправительственном кредите по результатам торгово-экономических отношений в 1992 году и в январе—июне 1993 года и о межправительственном кредите на 1993 год.

**Со вчерашнего дня в Беларуси повышены цены на услуги железнодорожного транспорта.**

Комплект постельного белья на поездах местных линий стоит теперь 250 рублей, а на поездах международного сообщения и фирменных — 300. Резервирование мест в купейном или плацкартном вагонах будет стоить 300, а в спальном — 500 рублей.

**Вчера завершился официальный визит в Грецию президента России Бориса Ельцина.**

Главным событием визита стало подписание греко-российского договора о дружбе и сотрудничестве.

**К настоящему моменту из Германии выведено 420 тысяч человек, входящих в состав Западной группы войск, в том числе 270 тысяч военнослужащих.**

Это — около 75 процентов личного состава группы, более 80 процентов техники и вооружений.

**В Боснии разрастаются хорватско-мусульманские вооруженные столкновения.**

Вновь началось сражение за город Мостар.

**Совет директоров Международного валютного фонда принял решение о предоставлении кредита России на 1,5 миллиарда долларов.**

Это первая часть обещанных российскому правительству ассигнований в рамках новой программы перехода к рынку.

**Зарегистрирована утечка радиоактивных элементов в хранилище опасных отходов близ мексиканского города Сьюдад-Хуарес.**

Утечка вызвана недочетами в проекте хранилища и низким качеством строительных работ.

**В ходе консультации между США, Великобританией и Францией достигнуто соглашение о проведении массированной воздушной кампании против Ирака, если его войска начнут наступление на курдов на севере страны.**

Ирак сосредоточил сейчас 100-тысячный воинский контингент на границе с Курдистаном.

**Борис Ельцин по-прежнему занимает первое место в рейтинговом списке ста наиболее популярных политиков России.**

В пятерку наиболее популярных политиков входят также глава правительства Виктор Черномырдин, вице-премьер Сергей Шахрай, спикер парламента Руслан Хасбулатов, первый вице-премьер Владимир Шумейко.

### Доллар на горной тропе

**Вчерашний курс валют банка "Комплекс" в Минске**

| Наименование валюты | Скупка | Продажа |
|---|---|---|
| Доллар США | 1175 | 1230 |
| Немецкая марка | 690 | 723 |
| Английский фунт | 1650 | 1733 |
| Финская марка | 193 | 203 |
| Французский франк | 193 | 203 |

**За минувший месяц доллар в республике подешевел на сто рублей. Причем это произошло буквально за последнюю неделю.**

Достигнув "критически" низкой отметки в 1200 "деревянных", вчера он вновь стал "карабкаться" в гору. По мнению экспертов в ближайшее время его спуска не предвидится.

Вчера на торгах Московской межбанковской валютной биржи доллар упал на один рубль и шел за 1059.

**Антон ЧЕКОВ.**



### Хотите знать? Пожалуйста...

***Многих читателей "Народной газеты" интересует, какими же тиражами стали выходить в Беларуси с июля 1993 года республиканские, городские и московские газеты? Вот сведения, поступившие вчера из издательства "Белорусский Дом печати" и областных управлений связи. Сегодняшние, например, номера газет вышли следующими тиражами:***

| Название газеты | Сколько раз в неделю выходит | Тираж |
|---|---|---|
| *Республиканские издания* | | |
| **"Народная газета"** | **5** | **501040** |
| "Советская Белоруссия" | 5 | 458638 |
| "Звязда" | 5 | 170182 |
| "Рэспубліка" | 5 | 114733 |
| "Белорусская нива" | 5 | 101887 |
| "Знамя юности" | 5 | 82488 |
| "7 дней" | 1 | 173840 |
| "На страже Октября" | 2 | 100382 |
| *Областные газеты* | | |
| "Заря" (Брест) | 3 | 56150 |
| "Гродненская правда" | 3 | 38982 |
| "Магілёўская праўда" | 3 | 34866 |
| "Віцебскі рабочы" | 3 | 21442 |
| "Мінская праўда" | 3 | 16343 |
| "Гомельская праўда" | 3 | 63825 |
| *Городские газеты* | | |
| "Вечерний Минск" | 5 | 136906 |
| "Віцьбічы"(Витебск) | 3 | 52616 |
| "Добры вечар"(Минск) | 5 | 17018 |
| "Вечерний Брест" | 1 | 8646 |
| "Вечерний Гомель" | 1 | 7808 |
| *Московские издания* | | |
| "Комсомольская правда" | 5 | 37554 |
| "Правда" | 5 | 30305 |
| "Труд" | 5 | 27716 |
| "Известия" | 5 | 24719 |

***Понятно, что на протяжении полугодия тиражи будут меняться — кто-то подпишется на пять, четыре, три и менее месяцев, кто-то будет чаще заглядывать в киоски.***

*Сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь: асабісты погляд*

# Не выкінулі адстаўкай, прыціснем недаверам — такую тактыку абрала большасць

**Мікалай ГАЛКО**

Прагноз, зроблены ў пачатку цяперашняй сесіі, аб тым, што галоўнай задачай пэўных дэпутацкіх груп з'яўляецца адхіленне ад пасады Станіслава Шушкевіча, стопрацэнтна спраўдзіўся. І дарэмна тады дэпутат Генадзь Казлоў хваравіта прарэагаваў на прагноз: маўляў, ён ад астралогіі.

Нічога не магу сказаць пра ролю нябесных цел, не спецыяліст, а вось роля розных дэпутацкіх груповак у гвалце, учыненым на гэтым тыдні, відавочная. На працягу трох дзён вялася, на мой погляд, нічым не прыкрытая атака на Старшыню Вярхоўнага Савета. Абвінавачанне першае: ён не падпісаў дагавор аб калектыўнай бяспецы, тым самым праігнараваў волю вышэйшага органа ўлады і страціў права кіраваць ім.

Станіслаў Шушкевіч даводзіў, што даручаная яму працэдура выканана і ён гатовы прадставіць экспертную выснову самага высокага рангу.

На маю асабістую думку, справа зусім не ў Дагаворы аб калектыўнай бяспецы (ён, дарэчы, і не дзейнічае пакуль што, бо ратыфікаваны толькі дзвюма краінамі) — нашым дзяржаўным межам нішто не пагражае. І подпіс пад тым дагаворам нічога істотнага не вырашае. Справа таксама не абмяжоўваецца мяркуемай недысцыплінаванасцю Станіслава Шушкевіча.

У Вярхоўным Савеце сутыкнуліся два процілеглыя погляды на дзяржаву. Некаму хочацца схавацца, як за камуфляж, за словы аб суверэнітэце, а на самай справе стаць расійскай правінцыяй, некаму косткай у горле тырчыць шчырая беларускасць, нехта супраць курсу на сапраўдную рыначную эканоміку, многія з тугой успамінаюць цеплыню ўзаемаадносін у партыйна-наменклатурным асяроддзі...

Для гэтых людзей (зразумела, прыведзена прыблізная характарыстыка) Станіслаў Шушкевіч даўно стаў непажаданай фігурай. Сёння, бадай, можна ўспомніць і яго грахі. Ён не здолеў (ці не захацеў) абаперціся на рэальную палітычную сілу ў парламенце. Балансаванне паміж прадстаўнікамі ўрада, камуністамі, БНФ і іншымі суполкамі ішло нейкі час даволі паспяхова, але большасць (пракамуністычная, прасаўмінаўская) захацела, як мне здалося, бачыць на першым месцы **свайго чалавека**. Да большасці далучыліся з-за ўласных палітычных амбіцый (гэта мой асабісты погляд) і тры маладзечанскія дэпутаты — Генадзь Карпенка, Уладзімір Станкевіч і Віктар Ганчар.

Вечарам у сераду спроба ўнесці пытанне аб адстаўцы Станіслава Шушкевіча не ўдалася. Але не такія людзі пачыналі наступ, каб адмовіцца ад яго пасля першай няўдалай спробы. Стала відаць, як пасвятлелі твары ў майстроў кадравых інтрыг, як нават знешне памаладзелі яны, як забегалі ад аднаго дэпутата да другога. Яны займаліся сваёй любімай справай, натуральна, вельмі далёкай ад надзённых праблем людзей.

Нехта скажа: усё было б добра, каб не зрабіў Старшыня Вярхоўнага Савета пралiку ў адносінах да дэпутата Дзмітрыя Булахава. Пасля разважанняў апошняга аб маралі Станіслаў Шушкевіч кінуў у адрас Булахава рэпліку, што на яго месцы пасля трагедыі на дарозе, у выніку якой загінула жанчына, ён даўно пайшоў бы ў адстаўку.

Пытанне аб адказнасці Булахава некалькі разоў узнімалася прадстаўнікамі апазіцыі, але ніводнага разу Старшыня не даў разгарэцца страсцям. А на гэты раз выклікаў полымя. Дэпутаты, дакладней, значная частка, усхапіліся з месцаў, закрычалі. Большасць любіць Булахава, такіх кваліфікаваных юрыстаў сярод іх няма.

Калі надаваць вялікае значэнне эпізоду з Булахавым, то Шушкевіч трапіў у тую пастку, ад якой aберагаў іншых. Можна было б даўно афіцыйна выказаць адносіны да ўчынку Булахава. Але момант, які падвярнуўся, быў, я лічу, няўдалым.

Дзмітрый Булахаў з ляскам кінуў на трыбуну сваё пасведчанне і заявіў аб сваёй адстаўцы.

Усхваляваная зала ўзрушылася яшчэ больш. Узнятае пытанне аб недаверы Станіславу Шушкевічу набыло для многіх большую актуальнасць.

"Абсмактаўшы" юрыдычныя нюансы, было вырашана правесці тайнае галасаванне, з бюлетэнямі, праз кабіну для галасавання. Спробы перанесці пытанне на пазнейшы тэрмін нічога не далі.

У той час, калі я пішу гэтыя радкі, трэці дзень палітычных баталій яшчэ не завяршыўся. Прадказваць вынікі галасавання няма патрэбы, бо чытач даведаецца аб іх раней, чым возьме ў рукі нумар газеты.

Выказванне недаверу, калі яно адбудзецца, не вымагае абавязковых юрыдычных мер. Старшыня атрымае магчымасць зрабіць тую альбо іншую карэкціроўку курсу. У цэлым жа ўражанне ад трох дзён гаварыльні вельмі сумнае і цяжкае. Рэальную ўладу трымаюць у руках тыя, хто трымаў яе і раней. Паўнамоцтвы Шушкевіча, на мой погляд, прывідныя, ён мае права ўсё прапаноўваць, аб усім гаварыць... і не атрымліваць шырокай падтрымкі.

У вачах грамадзян падзеі, хутчэй за ўсё, будуць выглядаць гульнямі дарослых людзей у гістарычныя падзеі.

Зразумела, я выказаў асабістыя меркаванні. Вынікі баталіям, якія разгарнуліся ў парламенце, вядома, падсумуе час.

**P.S. Калі матэрыял ужо стаяў на паласе, стала вядома: Д.Булахаў пакінуў залу пасяджэнняў Вярхоўнага Савета, зрабіўшы заяву, што ён сюды больш ніколі не вернецца.**

*Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на дванаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ:

# "У Беларусі застаюцца выдатныя шанцы..."

### 1.Воля парламента

У парадак дня Вярхоўнага Савета ўнесена прапанова заслухаць маю інфармацыю аб выкананні пункта чацвёртага пастановы мінулай нечарговай сесіі па дакладу "Аб становішчы рэспублікі і аб важнейшых пытаннях яе ўнутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці".

Нагадаю вам, што запісана ў гэтым пункце. "Пацвярджаючы імкненне Рэспублікі Беларусь да набыцця статуса нейтральнай дзяржавы, замацаванае ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, даручыць Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шушкевічу С.С. падпісаць Дагавор аб калектыўнай бяспецы, які заключаны 15 мая 1992 года ў горадзе Ташкенце, **з заявай аб адпаведных агаворках.**

Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь падрыхтаваць **агаворкі**, якія выключаюць, **у прыватнасці**, прымяненне Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь на тэрыторыі іншых дзяржаў, размяшчэнне і прымяненне ўзброеных сіл іншых дзяржаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь без рашэння Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, **і ўнесці іх для разгляду пры ратыфікацыі Дагавора аб калектыўнай бяспецы".**

Абмяркоўваючы **29 красавіка** пытанне аб выкананні пункта 4 вышэйзгаданай пастановы, члены Прэзідыума звярнулі ўвагу на пэўную супярэчнасць ў яго фармуліроўцы. Справа ў тым, што сесія даручыла Старшыні Вярхоўнага Савета падпісаць дагавор і зрабіць заяву аб агаворках. Тэрмін падпісання Дагавора не прадугледжваўся пры гэтым. Сутнасць жа "заявы аб адпаведных агаворках" засталася нявызначанай, як у прыватнасці, так і ў цэлым, бо самі агаворкі, як вынікае з пастановы, павінны быць падрыхтаваны Прэзідыумам толькі падчас ратыфікацыі дакумента.

Каб выйсці з гэтага становішча, было вырашана падрыхтаваць агаворкі, уключыць іх у заяву, а потым накіраваць яе ўсім дзяржавам, падпісаўшым Дагавор.

**25 мая** на пасяджэнні Прэзідыума мы зноў вярнуліся да гэтага пытання. Камісія па нацыянальнай палітыцы і пытаннях СНД прапанавала праект адпаведнай пастановы па агаворках, але дакумент не быў зацверджаны. Дзевяць членаў Прэзідыума выказаліся "за", сем — устрымаліся, двое адмовіліся галасаваць.

У такой сітуацыі мною **28 мая 1993 года** накіраваны ліст кіраўнікам дзяржаў СНД, які, па-першае, канстатуе факт падпісання Беларуссю Дагавора аб калектыўнай бяспецы, а па-другое, даводзіць да іх ведама **заяву аб агаворках.** Такім чынам, зроблены крок, даручаны мне парламентам, з'яўляецца безумоўнай рэалізацыяй першага абзаца пункта 4 адпаведнай пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Цяпер слова — за Прэзідыумам і за Вярхоўным Саветам: падрыхтаваць агаворкі да разгляду пры ратыфікацыі Дагавора.

Некаторыя народныя дэпутаты сцвярджаюць, што, накіраваўшы пісьмо кіраўнікам дзяржаў, я перавысіў свае паўнамоцтвы.

Дазвольце з гэтым не згадзіцца.

Па-першае, яшчэ раз падкрэсліваю: у лісце выкладзены не агаворкі, **а заява аб агаворках,** што даручалася **мне** Вярхоўным Саветам. Па-другое, у маёй заяве спецыяльна агаворана, што Рэспубліка Беларусь захоўвае за сабой права зрабіць па асобных артыкулах Дагавора агаворкі, або ўдакладніць заяўлены мной тэкст падчас ратыфікацыі дакумента. Так што правы Вярхоўнага Савета ніхто не манапалізаваў. І трэцяе, палажэнне аб спыненні ўдзелу Беларусі ў сістэме калектыўнай бяспекі з моманту вываду з яе тэрыторыі расійскіх войскаў грунтуецца на канстытуцыйным прынцыпе аб імкненні Беларусі да набыцця бяз'ядзернага і нейтральнага статуса. Гэты прынцып выкладзены ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, якая зацверджана Вярхоўным Саветам рэспублікі. Справа гонару кожнага дэпутата, у тым ліку і майго, праводзіць яго ў жыццё шчыра, паслядоўна і без хістанняў.

### 2. Сумны лёс агаворак

Мае ўласныя адносіны да падпісання Дагавора не змяніліся. Наадварот, за апошні час я глыбока ўпэўніўся, што падключэнне да сістэмы калектыўнай бяспекі ніякіх выгод нам не нясе. Асабліва хачу адзначыць бесперспектыўнасць і нежыццяздольнасць выбранага шляху, бо далучэнне **да Дагавора з якімі-небудзь агаворкамі выключана.** Папраўкі можна ўнесці толькі цяпер, пасля падпісання рэспублікай дакумента і са згоды **ўсіх удзельнікаў (ч.II, арт.10 Дагавора)**. Як бачым, калі тая ж Арменія, якая, дарэчы, адной з першых ратыфікавала Дагавор, ці Таджыкістан скажуць "не" беларускім агаворкам, мы будзем вымушаны пасылаць нашых хлопцаў ваяваць за чыесьці інтарэсы.

Некаторыя, у тым ліку і кіраўнікі Міністэрства замежных спраў рэспублікі, прапаноўвалі падпісаць Дагавор і не выконваць, а назіраць да моманту яго ратыфікацыі, як усё абернецца. Няма такой практыкі ў свеце! Любая дзяржава, якая падпісала міжнародны дагавор, абавязана выконваць усе яго артыкулы. Не будзе — дык і адносіны да яе будуць адпаведныя. Можна, напрыклад, успомніць, што і Дагавор СНУ-1 выконваўся цалкам яшчэ да ратыфікацыі.

Дагавор аб калектыўнай бяспецы СНД ужо выконваецца, хаця не ратыфікаваны большасцю дзяржаў. У ваенных дзеяннях на тэрыторыі Таджыкістана прымаюць удзел войскі іншых краін — былых рэспублік СССР. Нядаўна рашэнне накіраваць туды сваіх вайскоўцаў прыняў і Казахстан.

Не дай нам Бог быць уцягнутымі ў чыю-небудзь грамадзянскую вайну. А месцамі яна, дарэчы, утрымлівае элементы міждзяржаўнай, бо, напрыклад, супраць законных улад Таджыкістана ваююць і афганскія маджахеды. Па некаторых даных, тут ужо загінула і прапала без вестак больш ста тысяч чалавек. Колькі яшчэ пральецца крыві, можна ўявіць, прыгадаўшы ўдзел савецкіх войскаў у афганскім канфлікце.

Шэраг краін - СНД, падпісаўшых Дагавор аб калектыўнай бяспецы, прызналі, што сярэднеазіяцкі рэгіён знаходзіцца ў сферы іх дзяржаўных інтарэсаў. У прыватнасці, канцэпцыя знешняй палітыкі Расійскай Федэрацыі скіравана на "хутчэйшую ліквідацыю ачагоў напружання ля паўднёвых граніц, нармалізацыю абстаноўкі ў Афганістане". Яна ўжо праводзіцца ў жыццё. Пры заключэнні 25 мая Дагавора аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж Расіяй і Таджыкістанам падпісаны пакет з 7 пагадненняў, аб"яднаных ваеннай тэматыкай.

Між іншым, выкананне Расіяй сваіх ваенна-палітычных абавязацельстваў знаходзіцца пад пагрозай. Увосень там будуць звольнены ў запас адразу два прызывы вайскоўцаў — больш за паўмільёна чалавек. Улічваючы, што цяперашняе заканадаўства дазваляе больш як 80 працэнтам прызыўнікоў выкарыстаць права на адтэрміноўку ад службы, не выключана, што ў армію прыйдзе амаль у 8 разоў прызыўнікоў меней, чым трэба.

Няцяжка здагадацца, за кошт якіх рэгіёнаў Расія вымушана будзе папаўняць недахоп людзей у войску.

І не трэба спадзявацца, што ад пасылкі на гарачы поўдзень беларускіх хлопцаў уратуе агаворка, якая выключае прымяненне нашых войскаў на тэрыторыі іншых дзяржаў, бо, паўтараю, з ёю павінны пагадзіцца ўсе ўдзельнікі Дагавора аб калектыўнай бяспецы.

Нельга не напомніць і аб тым, што на перадапошнім пасяджэнні Савета Міністраў абароны СНД быў прапанаваны праект пагаднення аб новых аб"яднаных узброеных сілах СНД. Ён прадугледжвае стварэнне ў 1993-94 гадах агульнавайсковых злучэнняў, якія будуць служыць і прыкрыццём, і адначасова мабільнай сілай ва ўзброеных канфліктах абмежаваных маштабаў на знешніх граніцах дзяржаў — удзельніц СНД.

Дадам, што настойлівымі прыхільнікамі прапановы з"яўляюцца Арменія, Казахстан, Кыргызстан, Таджыкістан і Узбекістан, а сам праект аб новых аб"яднаных узброеных сілах Садружнасці будзе прадстаўлены на абмеркаванне кіраўнікам дзяржаў СНД, якое плануецца правесці ў Ерэване 16 ліпеня.

Другая агаворка, якую абмяркоўваў Прэзідыум, тычыцца неразмяшчэння на тэрыторыі Беларусі войскаў і зброі замежных дзяржаў. Расія наўрад ці згодзіцца з нашай пазіцыяй, бо зацверджаныя ў маі "Асноўныя палажэнні канцэпцыі знешняй палітыкі Расійскай Федэрацыі" прадугледжваюць захаванне ваенных баз, інфраструктуры і іншых аб"ектаў на ўсёй тэрыторыі былога СССР, забеспячэнне статуса Расіі як адзінай ядзернай дзяржавы ў СНД. Такім чынам, ваенная дактрына суседняй дзяржавы з'арыентавана на размяшчэнне сваіх войскаў і па-за межамі Расіі. Адсюль вынікае, што, далучаючыся да Дагавора аб калектыўнай бяспецы СНД, мы фактычна адмаўляемся ад статуса нейтральнай краіны, які, дарэчы, на гэтай сесіі пацверджаны канстытуцыйнай большасцю Вярхоўнага Савета пры абмеркаванні праекта Асноўнага Закона. Нагадаю, што ў ім адназначна сказана:"Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай".

У якасці аргумента далучэння да сістэмы калектыўнай бяспекі СНД найчасцей гучыць спасылка на тое, што Узброеныя Сілы рэспублікі апынуліся ў цяжкім становішчы і не могуць самастойна забяспечваць ахову інтарэсаў рэспублікі. Прызнаемся шчыра, што, абвясціўшы сваю армію беларускай, мы яшчэ не зрабілі яе такой. Армія павінна, зыходзячы з абраных арыенціраў развіцця і аб"ектыўных магчымасцей, у рэшце рэшт усвядоміць сябе менавіта арміяй Беларусі. Гэтыя арыенціры акрэслены ў Ваеннай дактрыне: патрыятызм, нейтралітэт і разумная дастатковасць. Трэба імкнуцца да іх і **не толькі на словах!**

### 3.Беларуская армія і канверсія

Не паспела высахнуць чарніла ў тэксце Ваеннай дактрыны, як выявілася няздольнасць кіраўніцтва нашых Узброеных Сіл забяспечыць іх самастойнае існаванне без былога цэнтралізаванага забеспячэння. І гэта лагічна пры той колькасці вайскоўцаў, што мы сёння маем. Мяркуйце самі. У параўнанні з Беларуссю колькасць насельніцтва Узбекістана ў 2 разы больш, а арміі — у 3 разы менш. Ваюючая Грузія мае напалову менш насельніцтва і ў 10 разоў меней вайскоўцаў. Колькасць насельніцтва Венгрыі на 400 тысяч больш нашага, але яе армія складае амаль палову беларускай. Прыкладна такія ж суадносіны з нейтральнай Аўстрыяй, усе паказчыкі якой, дарэчы, адпавядаюць Азербайджану, які ўдзельнічае ў канфліктах. Нарэшце, згодна з міжнародным стандартам, колькасць узброеных сіл адносна колькасці насельніцтва складае ў сярэднім 0,5 працэнта. У нас жа пакуль што гэты паказчык у 3 разы большы. І нават пасля запланаванага скарачэння арміі ён будзе перавышаць цывілізаваны больш чым на 50 працэнтаў.

Але ж абарона патрабуе не толькі ўтрымання пэўнай колькасці вайскоўцаў. Неабходны сучасная зброя, палігоны, навучальныя і даследчыя ўстановы, адпаведная прамысловасць і іншае. Толькі зямельнай плошчы армейскія злучэнні займаюць амаль паўмільёна гектараў, сярод якіх чвэрць мільёна гектараў — лясы, наш сыравінны патэнцыял. Ваенна-прамысловаму комплексу належыць каля 70 прадпрыемстваў рэспублікі з персаналам у 400.000 чалавек (20 працэнтаў працуючых у нацыянальнай прамысловасці).

Зразумела, што сучаснай эканоміцы Беларусі гэта не на карысць. Таму, апрача праграмы агульнага рэфармавання Узброеных Сіл, патрэбна асобная праграма скарачэння ваеннага бюджэту, напрыклад, у напрамку ўдасканалення менавіта абарончых сістэм з мэтай нейтралізацыі замежных наступальных сродкаў, стандартызацыі і уніфікацыі айчынных узбраенняў, мінімізацыі іх тыпаў. Распрацоўка такой праграмы, калі кіравацца ў ваенным будаўніцтве не колькаснымі, а якаснымі прынцыпамі, немагчыма без канцэпцыі пераўзбраення арміі. А яе ў Міністэрства абароны пакуль што няма. Гэта адмоўна адбіваецца і на ваеннай прамысловасці, якая "паспяхова" разбураецца, апынуўшыся паміж канверсіяй і ўзнікшай надзеяй зноў "расквітнець" пасля ўваходжання Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі СНД.

У свой час мы без дакладных эканамічных разлікаў пачалі канверсію, а зараз тым жа чынам далучыліся да Дагавора аб калектыўнай бяспецы. Пры гэтым зусім не ўлічваюцца новыя рэаліі, тое, што Расія не мае намеру рабіць былых заказаў. Яна стварае сваю адпаведную вытворчасць. Прыкладаў гэтаму дастаткова.

Упэўнены, што нам патрэбна не адраджэнне былога ВПК, а рацыянальная яго канверсія і структурная перабудова як на карысць усёй эканоміцы, так і ў інтарэсах уласнай абароны.

Нельга мець дастаткова надзейнай абароны, калі айчынная прамысловасць і баяздольнасць нацыянальнай арміі цалкам залежаць ад іншай краіны, нават дружалюбнай. Прабачце, якая ж тут дзяржаўная незалежнасць!

Стварэнне нашай нацыянальнай арміі — працэс доўгі і няпросты. Яе апорай павінен стаць афіцэрскі корпус з ліку кваліфікаваных патрыётаў. Інакш Узброеныя Сілы суверэннай краіны як яе дзяржаўны інстытут наогул немагчымы. Таму пры вырашэнні вайсковых кадравых пытанняў мэтазгодна зыходзіць з крытэрыяў прафесійнай ваеннай кампетэнтнасці **і прыхільнасці да Беларусі, яе традыцый, культуры.** Толькі з рэальных і паслядоўных крокаў складаецца шлях да сапраўднай дзяржаўнасці.

### 4. На шляху да эканамічнага саюзу

Калі памятаеце, на мінулай сесіі размова аб далучэнні да Дагавора цесна ўвязвалася са стварэннем Эканамічнага саюзу краін СНД. Рабіліся высновы, што далучэнне да сістэмы калектыўнай бяспекі з"яўляецца перадумовай эканамічнай еднасці.

На сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД, якая адбылася 14 мая ў Маскве, мы абмяркоўвалі пытанне аб Эканамічным саюзе. Краіны Садружнасці адназначна выказаліся за яго стварэнне і (за выключэннем Туркменістана) падпісалі дэкларацыю, у якой гаворыцца, што ў руху да Эканамічнага саюзу краіны СНД бачаць мэтай забеспячэнне ўзаемных інтарэсаў дзяржаў Садружнасці, плённае развіццё свабодных гаспадарчых сувязей прадпрыемстваў, вытворцаў і спажыўцоў прадукцыі, зняцце ўсіх перашкод на шляху іх прамога ўзаемадзеяння.

Да 1 ліпеня намечана падрыхтаваць адпаведныя дакументы і ажыццявіць практычныя крокі па стварэнню Эканамічнага саюзу. Мяркуецца, што на працягу бягучага года будзе прыняты блок з 25 дакументаў, якія складуць прававую аснову новых адносін у СНД, створаць магчымасць для новай дынамікі збліжэння.

Адзначу, што, абмяркоўваючы шляхі эканамічнай інтэграцыі, **удзельнікі сустрэчы не ставілі перадумовы ваеннага саюзу.** Як вы ведаеце, Украіна і Малдова не падпісалі Дагавор аб калектыўнай бяспецы і рабіць гэта не будуць. Тым не менш яны выказаліся за стварэнне адзінай эканамічнай прасторы і падпісалі дэкларацыю. Пры гэтым ніхто ад іх не патрабаваў далучэння да сістэмы калектыўнай бяспекі, як і ад Грузіі, віцэ-прэм'ер якой Аўтандзіл Маргіяні заявіў, што "Грузія мае намер далучыцца да Эканамічнага саюзу", хаця сама не з'яўляецца нават членам Садружнасці.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

